# Первейшая задача — изменение Избирательного кодекса

Уважаемые граждане страны!

Мы, депутаты парламента, члены депутатской группы “Республика”, члены организационного комитета движения “Граждане за достойную жизнь” искренне благодарим Вас за многочисленные звонки после нашего обращения к Вам, за ваши добрые слова, за моральную поддержку. В своих обращениях Вы спрашиваете: “Чем мы можем помочь вам?”.

Первейшей задачей движения является изменение избирательного законодательства с целью сделать выборы честными и справедливыми.

Мы рассчитываем на вашу поддержку, которая, на наш взгляд, могла бы выразиться в следующем.

1.Организовывайте инициативные группы по сбору подписей под обращением граждан за изменение избирательного законодательства Республики Беларусь, вступайте в них сами и вовлекайте своих друзей и знакомых.

2.Встречайтесь с депутатами Палаты представителей от ваших округов по время приемов. Они — наши коллеги, это по сути своей здравомыслящие, опытные, разбирающиеся во многих вопросах люди. Организовывайте встречи с ними. Собирайте подписи под наказом избирателей вашему депутату Палаты представителей с требованием поддержать инициативу по изменению избирательного законодательства.

3.Обратитесь к членам избирательных комиссий на ваших избирательных участках. Помогите им понять, что участие в фальсификации результатов выборов является нарушением закона и создает условия для нашей убогой жизни.

4.Наберитесь сил, почитайте Конституцию Республики Беларусь, сравните то, что записано в ней, с тем, что делается в стране. Обращайтесь в суды, если считаете, что ваши права нарушаются.

5.Присоединяйтесь к нашему движению “За достойную жизнь”, вступайте в партии и общественные организации, выбирая их по своим взглядам. У нас в стране уже существует большое количество таких организаций, помогайте им набирать силу.

6.Направляйте свои предложения в газету “Народная воля” и другие средства массовой информации.

7.Обращайтесь к нашим координаторам по областям:

**Брестская область — Анатолий ЛЕВКОВИЧ, тел. 8-0296-52-00-20;**

**Барановичи — Геннадий САХОНЧУК, тел. 8-0296-51-37-09;**

**Витебск — Геннадий МУРАТОВ, тел. 2 И 853 или 22-83-82;**

**Гродненская область — Дмитрий ИВАНОВСКИЙ, тел.44-64-80 или 2-97-14;**

**Гомельская область — Андрей ТОЛЧИН, тел. 55-93-71 или 47-96-96;**

**Могилевская область — Андрей КУРАКОВ, тел. 8-0296-24-30-12;**

**Минская область:**

**Борисов — Анатолий БУКАС, тел.3-94-21, 8-0296-39-42-11;**

**Жодино — Александр ВОЛЧАНИН, тел. 7-52-14.**

**Пишите нам. Ваша поддержка нам очень нужна. Успехов Вам, удачи в добрых делах, здоровья и терпения.**

**Оргкомитет движения “За достойную жизнь”.**

ПУЛЬС

## Майская «талака» на радзіме Сікоры

Найлепшым чынам ушанавалі сёлета землякі памяць славутага беларускага садавода Івана Сікоры на ягонай радзіме, у вёсцы Малыя Алашкі Шаркоўшчынскага раёна.

Супрацоўнікі культурна-асветніцкага цэнтра імя Язэпа Драздовіча ў Германавічах арганізавалі добраўпарадкаванне старой сікораўскай сялібы. Скарыстаўшы майскае пацяпленне, яны разам з прадстаўнікамі розных раёнаў Віцебшчыны абрэзалі падмерзлыя галіны садовых дрэў, пабялілі ствалы яблынь і груш, навялі парадак у кветніку, зрабілі новае застрэшша на хаце Сікоры, прыбралі двор.

У час наведвання музея легендарнага садавода, які меў перапіску з Львом Талстым, госці з розных куткоў вобласці сустрэліся з сынам селекцыянера Віктарам Іванавічам, які шчыра падзякаваў землякоў і прыезджых за дзейсную памяць пра бацьку. Выведзеныя ім пароды пладовых дрэў да гэтага часу прыносяць карысць садаводам Беларусі, Польшчы ды іншых краін свету.

## Інваліды — за дастойнае жыццё

“За дастойныя пенсіі”, “Абарона правоў інвалідаў — не на словах, а на справе!”.

Гэтыя і іншыя лозунгі трымалі ў руках віцебскія інваліды-калясачнікі, якія адзначылі пікетам Міжнародны дзень абароны правоў інвалідаў.

Сабраўшыся на плошчы Леніна (найбольш роўнай у горадзе), інваліды выказалі свае прэтэнзіі да ўлады (як мясцовай, так і цэнтральнай), якая не дапамагае людзям, страціўшым ногі, вырашаць іх праблемы.

У Віцебску, напрыклад, не створаны ўмовы для перамяшчэння інвалідных калясак і людзей з абмежаванымі фізічнымі магчымасцямі. На гарадскіх маршрутах няма ніводнага аўтобуса ці тралейбуса, куды мог бы падняцца інвалід-калясачнік. Не толькі ў старых раёнах горада, але і ў дамах новабудоўляў шмат высокіх парогаў, крутых прыступак і лесвіц. Гэта перашкаджае інвалідам-калясачнікам наведваць дзяржаўныя і медыцынскія ўстановы, магазіны і аптэкі.

Удзельнікі пікета падкрэслівалі, што ў іх няма ўтрыманскіх настрояў. Яны вельмі хацелі б знайсці надомную працу, але не могуць гэтага зрабіць.

**Сяргей БУТКЕВІЧ.**

## Смуткуюць беларускія татары

Беларускае грамадскае аб’яднанне татар “Зікр уль-Кітаб” разам з Мусульманскім рэлігійным аб’яднаннем у Рэспубліцы Беларусь штогод праводзіць у траўні жалобныя вечарыны з нагоды сталінскага генацыду ў Крыме, які пачаўся над татарамі адразу пасля пераможнага салюта ў Севастопалі ў траўні 1944 года. Усяго за 60 гадзін было дэпартавана з Крыма 194.111 татар, з іх, як сведчаць гісторыкі, загінула 46 працэнтаў.

Вечар смутку і жалобы адбыўся ў гэтым годзе 16 траўня ў Мінскім Доме ветэранаў. Ён адкрыўся з чытання адпаведнай малітвы і гімна крымскіх татар “Я даў клятву”, які праспяваў гурт дзяўчынак у нацыянальным адзенні. Раздзялілі смутак і жалобу прадстаўнікі розных нацдыяспар, пражываючых на Беларусі. Прысутнічаў і выступіў паўнамоцны пасол Турцыі Алі Вуал Октэм.

**Мікола ЛАВІЦКІ.**

СЛОВЫ І СПРАВЫ

# Абяцаў, абяцаў, абяцаў...

*Апошнім часам толькі і чуеш: Лукашэнка будзе балатавацца на трэці прэзідэнцкі тэрмін, хоць гэта і супярэчыць Канстытуцыі. Знаўцы сцвярджаюць, што будзе праведзены рэферэндум па чарговай змене Асноўнага закона, што дазволіць Аляксандру Рыгоравічу ажыццявіць сваё жаданне. Хаця, калі разабрацца, дык ён, па-мойму, у прэзідэнцкім крэсле ўжо і так трэці тэрмін. Першы — з 1994 па 1999 год, другі — з 1999 па 2001 год, трэці — з 2001 года.*

*Многа гаворыцца пра неўтаймаванае жаданне Лукашэнкі быць “вечным царом” і мала — пра галоўнае: як ён выконвае свае абяцанні. А гэта ж для палітыка — самае асноўнае. Таму давайце пацікавімся, як Аляксандр Рыгоравіч трымае сваё слова.*

*Успомнім, што Лукашэнка абяцаў яшчэ перад першым прэзідэнцкім тэрмінам у 1994 годзе. З той пары мінула амаль дзевяць гадоў. Часу больш чым дастаткова, каб рэалізаваць свае задумы, аб якіх публічна гаварыў на ўвесь свет.*

*Такім чынам, бяром у рукі “Тэзісы праграмы кандыдата ў прэзідэнты Рэспублікі Беларусь А.Лукашэнкі”, яго выказванні ў друку за 1994 год.*

### 1.Абяцаў спыніць рост цэн

Вось вытрымка з “Тэзісаў праграмы кандыдата ў прэзідэнты Рэспублікі Беларусь А.Лукашэнкі” за 1994 год:

*“Забяспечыць:*

*...спыненне росту цэн і збядненне насельніцтва...*

*Стабілізацыя цэн будзе ажыццяўляцца паслядоўным правядзеннем наступных мерапрыемстваў:*

*— устанаўленне дзяржаўнага кантролю за цэнаўтварэннем, каб выключыць рост прыбытку за кошт павышэння цэн;*

*— прадастаўленне права кантролю за цэнамі на спажывецкія тавары і паслугі грамадскім арганізацыям і іх падтрымка з боку дзяржавы;*

*— ...кіраўнікі прадпрыемстваў і арганізацый пры парушэнні дзяржаўнай палітыкі цэн будуць прыцягвацца да суровай адказнасці, у тым ліку і крымінальнай".*

Кажуць, абяцанага тры гады чакаюць. Але ж з той пары, калі А.Лукашэнка першы раз балатаваўся на пасаду прэзідэнта, прайшло ўжо амаль дзевяць гадоў, а цэны як скакалі, так і скачуць. Зноў толькі абяцанні. На нарадзе аб так званым адзіным нарматыве сацыяльнага стандарта па абслугоўванні насельніцтва, што адбылася ў красавіку, Аляксандр Лукашэнка сказаў: “Рынкавага разбою ў цэнаўтварэнні на сацыяльна значныя паслугі насельніцтву не павінна быць”.

Сапраўды — не павінна быць. Але што мы бачым на самай справе?

Возьмем хоць бы мінулы год. Вось як раслі спажывецкія цэны па месяцах. У студзені іх рост склаў у параўнанні з адпаведным перыядам папярэдняга года 148 працэнтаў, у лютым — 147,6, сакавіку — 145,7, красавіку — 145,1, маі — 144,5, чэрвені — 143,5, ліпені — 142,9, жніўні — 143,4, верасні — 142,2, кастрычніку — 139,6, лістападзе — 137,8, у снежні — 134,8. У сярэднім за мінулы год цэны падскочылі на 142,6 працэнта.

Як бачым, за леташні год спажывецкія цэны павялічыліся амаль у паўтара раза. А як выраслі тарыфы на камунальныя паслугі! І ці чулі вы, паважаныя чытачы, каб Аляксандр Рыгоравіч прыцягваў “да суровай адказнасці” кіраўнікоў за такі “танец цэн”? Я не чуў.

Чуў толькі, як Лукашэнка ў чарговы раз абяцаў спыніць рост цэн, а дакладней — павышэнне тарыфаў на камунальныя паслугі. Што ж, летам, можа, яны і пратрымаюцца. А восенню, зімой?

Ды што казаць пра рост цэн! Не так крыўдна было б, калі б апераджальнымі тэмпамі павышалася зарплата, раслі памеры пенсій, стыпендый, іншыя выплаты. Колькі ў нас людзей, якія не могуць звесці канцы з канцамі? Раней той жа настаўнік, атрымаўшы зарплату, спакойна працягваў працаваць. Сёння ў яго галаве кожны дзень мроіцца адна думка: як, як дацягнуць да наступнай зарплаты?

### 2.Абяцаў разграміць карупцыю і злачынцаў...

Чытаем тыя ж “Тэзісы праграмы кандыдата ў прэзідэнты Рэспублікі Беларусь А.Лукашэнкі” за 1994 год. У тым жа раздзеле “Забяспечыць” ёсць такі пункт:

2.Барацьба з карупцыяй, разгром мафіёзных структур, якія кіруюць у дзяржаве.

І далей: “...Галоўным напрамкам барацьбы са злачыннасцю стане навядзенне жорсткага парадку перш за ўсё у самой дзяржаўнай машыне. Для гэтага:

— органы дзяржаўнай улады і кіравання, праваахоўная сфера будуць ачышчаны ад асоб, якія маюць дачыненне да сумніўных здзелак, што дыскрэдытуюць уладу ў вачах народа;

...будуць прыняты меры па ўзмацненні адказнасці дзяржаўных чыноўнікаў, практыка пакарання за службовыя злачынствы будзе ўзмоцнена".

Тут варта прыгадаць яшчэ інтэрв’ю А.Лукашэнкі газеце “Рэспубліка” 21 чэрвеня 1994 года. Карэспандэнт задае пытанне:

— Дапусцім, вы станеце прэзідэнтам. Якія першыя ўказы вы падпішаце?

— Першы ўказ — кадравы. Усіх жулікаў і злодзеяў вымецем з улады, — адказаў А.Лукашэнка.

Але спачатку вернемся да абяцанняў Аляксандра Рыгоравіча “ўчыніць разгром мафіёзных структур, якія кіруюць у дзяржаве”. Здавалася, на гэта быў скіраваны ўвесь пафас яго выступленняў. Шкада толькі, што гаварыў Рыгоравіч палымяна, а вось канкрэтных захадаў для барацьбы з карупцыяй — кот наплакаў. Некаторыя з тых, каго Лукашэнка адкрыта называў карупцыянерамі, апынуліся побач з ім на кіруючых пасадах. Сёння нямала начальнікаў, якіх можна смела назваць карупцыянерамі. Афіцыйная зарплата — з гулькін нос, а глядзіш — катэдж у два-тры паверхі вырас за лічаныя месяцы, шыкоўныя кватэры ў дзяцей, іншамаркі, адпачынак — не на Нарачы, а як мінімум на Кіпры.

Не сакрэт: сёння многія ў начальнікі ідуць не для напружанай работы, а каб яшчэ ўхапіць тое, што не паспелі раскрасці. Той жа старшыня калгаса ведае: праз год-два яго здымуць, а таму галоўнае — паспець “прыхватызаваць” нейкі трактар, машыну, цішком нарыхтаваць будматэрыялаў для катэджа, пад які забраніраваны ўчастак пад горадам. Ды што старшыні калгасаў? На ўсіх узроўнях карупцыянер паганяе карупцыянерам.

А што ж стала са злачынствамі? Калі ў 1990 годзе іх было здзейснена 75.690, у 1994 — 120.254, дык у 2002 годзе — 132.900. Гэта толькі па статыстыцы, а колькі не выяўлена?

У канцы сакавіка гэтага года Аляксандр Лукашэнка прыняў з дакладам Генеральнага пракурора Віктара Шэймана. І вось што той паведаміў: летась пракуратурай праведзена больш за 12 тысяч агульнанадзорных праверак, па выніках якіх вынесена звыш чатырох тысяч пратэстаў на незаконныя рашэнні і дзеянні “должностных лиц”. Па патрабаваннях пракурораў каля 20 тысяч парушальнікаў заканадаўства і правоў грамадзян прыцягнуты да адказнасці. Адчуваеце, які разгул чыноўнікаў і беззаконня! Гэта вам не ў 1994 годзе!

Выступаючы ў парламенце з пасланнем Нацыянальнаму сходу, Аляксандр Лукашэнка папракаў дэпутатаў, якія паставарылі нейкіх “структурак”, захапілі плошчы ў Верхнім горадзе і “сдают в аренду напропалую”, атрымліваючы па 30—40 тысяч долараў у год. Вось такое, значыць, адбылося “ачышчэнне органаў улады і кіравання ад асоб, якія маюць дачыненні да сумніўных здзелак, што дыскрэдытуюць уладу ў вачах народа”.

Хто не разумее: не змог А.Лукашэнка выканаць свае абяцанні наконт навядзення “жорсткага парадку перш за ўсё ў самой дзяржаўнай машыне”.

### 3.Абяцаў кампенсацыю ўкладаў насельніцтва

І зноў вернемся да “Тэзісаў праграмы кандыдата ў прэзідэнты Рэспублікі Беларусь А.Лукашэнкі” за 1994 год. Чытаем:

“Рэалізацыя сацыяльнай палітыкі будзе ажыццяўляцца на наступных напрамках:

...Індэксацыя працоўных укладаў насельніцтва".

Дзе ж тая індэксацыя?

Вядома, што інфляцыя з’ела амаль усе ўклады грамадзян у банках, якія яны берaглі на чорны дзень ці на пахаванне. Тэма вяртання тых укладаў ужо нагнала аскому, але справа так і не зрушылася з месца. Няма ні машын, ні тэлевізараў, ні халадзільнікаў, якія ў свой час абяцаў А.Р.Лукашэнка.

Нядаўна, падчас “прамой лініі” з чытачамі газет “Советская Белоруссия” і “Комсомольская правда”, Аляксандр Рыгоравіч даў даволі цікавы адказ на пытанне жыхара Нясвіжа. А пытанне было такое: “Хацеў бы даведацца, як і калі будуць кампенсаваны ўклады ўкладчыкам, якія, маю на ўвазе пенсіянераў, адкладвалі на чорны дзень нейкую тысячу, за якую сёння не могуць нічога купіць?”. Вось што ён адказаў: “Вы ведаеце, што ў нас прыняты парадак кампенсацыі ўкладаў. Мы кампенсуем ўклады старажылам нашым, удзельнікам Вялікай Айчыннай вайны... Калі б былі лішнія грошы ў бюджэце, дык мы гэта адразу зрабілі б. Але прыходзіцца рабіць гэта паступова... Таму пачакайце, пакуль прыйдзе ваша чарга... Што датычыцца таго, што грошы абясцэніліся, ну дык прабачце, так здарылася. Пытанне, як кажуць, не да мяне, здарылася гэта пры распадзе Савецкага Саюза”.

Заўважце: якая рыторыка, які пафас быў у Лукашэнкі каля дзевяці гадоў таму і як гэта ўсё выглядае зараз.

Вядома: тая кампенсацыя ўкладаў, якую цяпер выдаюць людзям, — гэта капейкі, што і выклікае незадаволенасць, абурэнне. Аднак вырашаць праблему пасутнасці Аляксандр Рыгоравіч, калі меркаваць па яго адказе жыхару Нясвіжа, ужо не збіраецца.

Як самі людзі ўспрымаюць гэту кампенсацыю? Вось што піша ў рэдакцыю мінчанка Ю.Паўлава: “Мае бацькі зрабілі ўклад на маё імя ў суме 5 тысяч рублёў. У той час за такія грошы можна было купіць легкавы аўтамабіль... Днямі я звярнулася ў банкі і даведалася, што мне налічана кампенсацыю ў суме... 23 тысячы рублёў. За іх можна купіць кнігу ці аплаціць толькі частку камунальных плацяжоў за адзін месяц... Вось такая кампенсацыя. Шкада пакаленні тых, хто сумленна ўсё жыццё працаваў на карысць Радзімы”.

Не, улада не чуе голасу пакрыўджаных людзей. А калі хто паспрабуе выступіць, сабрацца на мітынг, шэсці — у ход ідуць дубінкі, найбольш актыўных кідаюць за краты.

### 4. Абяцаў прыцягнуць да кіравання прафесіяналаў

З “Тэзісаў праграмы кандыдата ў прэзідэнты Рэспублікі Беларусь А.Лукашэнкі” за 1994 год:

“Як дасягнуць мэтаў?.. За кошт прыцягнення да кіравання эканомікай і грамадствам прафесійных і, галоўнае, нераўнадушных людзей”.

А каго прыцягнуў?

Галоўным банкірам стаў вясковы будаўнік, міністрам аховы здароўя — пенсіянерка, камунальшчыкам — ... А як расцаніць тое, што пэўны час курыраваў ва ўрадзе беларускую навуку і культуру экс-палкоўнік? Вядома, што нават у былыя савецкія часы падобнае не рабілася.

Успомнім, якую ацэнку сваім кадрам даваў аднойчы сам Лукашэнка (цытыты — пад здымкамі справа).

Нядаўна падчас селектарнай нарады па веснавой сяўбе, Аляксандр Рыгоравіч так характарызаваў кадры: “Гэтыя... кіраўнікі думаюць, што прэзідэнт кулаком стукне, хтосьці прыедзе і раздасць ім нейкія грошы, і яны будуць спакойна прыходзіць да 12 на працу, у 4 гадзіны гэтую працу заканчваць і спакойна папіваць самагон і ляжаць пад плотам”.

Вось такія прафесіяналы цяпер у модзе. Падкрэслю, што вышэй прыведзеныя ацэнкі кадраў належаць самому Лукашэнку.

### 5. Абяцаў свабоду слова

З прэс-канферэнцыі А.Лукашэнкі пасля першага тура прэзідэнцкіх выбараў (“Рэспубліка”, 28 чэрвеня 1994 года).

“У выпадку перамогі каманда Лукашэнкі гатова гарантаваць усім работнікам сродкаў масавай інфармацыі ліквідацыю манаполіі дзяржавы на СМІ, адмову ад палітычнай цэнзуры, а таксама спыненне праследаванняў журналістаў па палітычных матывах”.

А што робіцца? Скажыце, калі ласка, чаму пасля абрання Лукашэнкі прэзідэнтам:

— з’явіліся “белыя плямы” ў газетах?

— не адменена манаполія дзяржавы на СМІ?

— спынена выданне шэрагу незалежных газет?

— асуджаны журналісты Маркевіч, Мажэйка, Івашкевіч?

— многія работнікі СМІ затрымліваюцца і збіваюцца падчас выканання сваіх службовых абавязкаў па асвятленні мітынгаў, іншых акцый апазіцыі?

— для дзяржаўных газет льготныя тарыфы на паслугі распаўсюджвання, для незалежных — значна вышэйшыя, проста непад‘ёмныя.

***

Ды што і казаць, пустым гукам засталіся амаль усе абяцанні Аляксандра Лукашэнкі. Цвёрда трымае ён толькі адно — “я за цывілізаваным светам свой народ не павяду”. Што ж, і гэта добра бачна. І ёсць вынік — за мінулы год насельніцтва Беларусі зменшылася больш чым на пяцьдзесят тысяч чалавек. Знік, можна сказаць, цэлы раён. І ўлады — ні гу-гу. Трагедыя! Крыкам трэба крычаць, вінаватых у выміранні нацыі прыцягваць да адказнасці, а не рабіць выгляд, што нічога не здарылася.

Калі А.Лукашэнка будзе і далей кіраваць дзяржавай — хана ёй будзе. Прабачце за катэгарычнасць і моцны выраз, але я ў гэтым упэўнены.

**Васіль АНТОНАЎ.**
**Фота IREX/ProMedia, БелТА.**

**Віцэ-прэм’еру Андрэю Кабякову:** “Вельмі шмат разважанняў, размоў... шмат вельмі гаворыцца, але мала робіцца”.

**Міністру** (ужо былому) **замежных спраў Міхаілу Хвастову**: “Складці дакуменцік, падкінуць прэзідэнту, пастаяць за спінай, калі даверчыя граматы прымаюцца, — і кропка”.

**Міністру працы і сацыяльнай абароны Антаніне Моравай**: “Пры ўсёй сваёй павазе да вас як да жанчыны, сёння выніку няма ніякага. Вы захапіліся чубайшчынай у краіне. І больш шуму, гвалту, больш плётак, чым справы”.

**Міністру прамысловасці Анатолю Харлапу:** “У мяне ўсё больш і больш уражання, што вы стаміліся... Ніводны ўласнік сабе такога разбою не дазваляе, як у нас на дзяржаўных прадпрыемствах. Зарплата, ільготы... дзяўчаты ў кароткіх спадніцах, кава, гарбата і іншыя пытанні, парылкі, бані і гэтак далей”.

АНТИРЕКЛАМА

# «Кодак» в белорусском исполнении

*Умер истинный фотолюбитель. Помню, в розовом детстве “нащелкаешь” снимков какой-нибудь “Сменой”, купишь в магазине проявитель, закрепитель и фотобумагу, запрешься в ванной и ... окунаешься в таинство рождения фотографии. Сегодня окунаться в таинство никто не хочет, подавляющее большинство наших сограждан с радостью отдается сети услуг фотогигантов “Фуджи”, “Коника”, “Кодак”. Решил отдаться и я, а точнее, стать участником акции “Вы платите только за те снимки, которые вам нравятся”, организованной самой продвинутой на нашем рынке компанией “Кодак”.*

Суть акции, если кто-то не знает, в том, что компания берет на себя обязательство отпечатать все фотографии с заранее проявленной пленки, а клиент наделяется правом заплатить только за те, качество которых его устраивает.

Юлия Богоявленская, работница “Кодака” в пункте, который находится в подземном переходе над станцией метро “Октябрьская”, похоже, регулярно “забывает” о широко разрекламированной компанией акции. Если заказчик не знает о ней, то ему и не напоминают. Не успел я назвать свою фамилию, как конверт с готовыми фотографиями уже лежал на столе, а юркие пальцы Юли уже почти выбили общую сумму за ВСЕ фотографии на кассовом аппарате. Я все же успел среагировать и буквально взмолился: “А как же акция?” — “Ах да!” — невозмутимо вздохнула Юля и предоставила-таки мне возможность ознакомиться с отпечатками. Три из тридцати трех фотографий я забраковал, заплатил за тридцать снимков и ушел. Но на этом мои приключения не закончились...

На следующий день я с удивлением обнаружил, что с 36-кадровой пленки в “Кодаке” почему-то не отпечатали два кадра, причем, по закону подлости, именно те, на которых были изображены герои моего интервью, снимки которых мне были нужны в первую очередь. “Почему?” — спросил я у Юли, когда вновь посетил кодаковскую секцию. “Вы же участник акции, — вновь невозмутимо ответила Юля, — а значит, мы не отпечатали снимки плохого качества”. Вглядевшись внимательно в кадры на пленке и, не обнаружив “плохого качества”, я оформил повторный заказ на эти два кадра. Юля предложила мне забрать два готовых снимка 2 мая после 16.00, не извинившись, кстати, за задержку...

Направляясь за снимками, я, признаться, немного нервничал, но шел с надеждой. Как оказалось, она мне не пригодилась. 2 мая в вышеназванной секции “Кодака” можно было только поцеловать замок. День, обозначенный в квитанции, был “неожиданно” объявлен выходным.

Фотографии обрели хозяина только на следующий день, 3 мая. Качество фотографий, заметил я, вспоминая прежние доводы работницы “Кодака”, было превосходным. Вспомнил я и о том, что в своем телевизионном рекламном ролике “Кодак” обещает печатать ВСЕ (!!!) фотографии заказчика.

В общем, я сделал вывод о том, что почти любая западная компания, придя на наш рынок, приобретает наши национальные черты. Чтоб не скучно нам было! А то представишь себе, что все четко, все по правилам и вовремя, как в Америке, так скучно становится. А так бегаешь, волнуешься, удивляешься. Веселуха! Даешь *наш* “Кодак” вместо *их* “Кодака”!

А если кому-то не нравится, так можно и детство розовое вспомнить — в ГУМе закрепитель с проявителем купить, в ванной запереться и печатать, печатать, печатать...

**Александр СИЛИЧ.**

## Унікальным дубровам у прыгарадзе Гомеля пагражае вусень

*Каранціннай зонай тэрмінам на 10 дзён аб’яўлены з 19 мая тэрыторыі Каранёўскай эксперыментальнай базы і унікальных дуброў у Волатаве пад Гомелем.*

Тут пачалася авіяцыйная апрацоўка масіваў біялагічна чыстымі прэпаратамі. Спецыялісты спадзяюцца такім чынам абараніць іх ад пражорлівых вусеняў, якія практычна поўнасцю з’ядаюць лісце дрэў і нясуць ім фактычнае выміранне.

Масавае распаўсюджванне небяспечных шкоднікаў зазначаецца ўжо другі год запар. Паводле апошніх звестак, іх колькасць гэтай вясной перавышае нарматыў у 10 разоў. Вучоныя ацэньваюць сітуацыю як пагражальную. Паводле слоў навуковага супрацоўніка Інстытута лесу Нацыянальнай Акадэміі навук Галіны Емяльянчык, прычына масавага распаўсюджвання вусеняў — комплексная, але галоўнае — гэта істотная змена клімату, што назіраецца ў апошні час. Цёплыя зімы і не па-беларуску гарачае лета ствараюць на рэдкасць спрыяльныя ўмовы для развіцця і паўнавартаснага жыцця шкоднікаў.

**Наталля ВАСІЛЕВІЧ.**

## Не лавіце рыбку ў Мінску

*Міністэрства прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя заклікала грамадзян на працягу найбліжэйшага года ўстрымацца ад рыбнай лоўлі на ўчастку Свіслачы ад Камсамольскага возера да парку імя Горкага, дзе была праведзена ачыстка ракі, каб зберагчы запасы выпушчанай тут нядаўна спецыялістамі рыбы.*

Пры гэтым Мінпрыроды нагадвае, што парушэнне правілаў аматарскага рыбалоўства цягне за сабой адміністрацыйную адказнасць.

Падчас ачысткі ўчастка Свіслачы ад Камсамольскага возера да Цэнтральнага дзіцячага парку імя Максіма Горкага рыба пайшла ў Чыжоўскае вадасховішча альбо ніжэй па цячэнні. Пасля заканчэння ачысткі з Камсамольскага возера ў раку стаў паступаць малакаштоўны маладняк акуня, плоткі і ярша. Для найхутчэйшага аднаўлення рыбных рэсурсаў і стварэння ўмоў для аматарскага рыбалоўства супрацоўнікі Мінскага камітэта прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя на пачатку мая выпусцілі ў Свіслач 1.400 карпаў (280 кілаграмаў), 1.000 шчупакоў (250 кілаграмаў) і 25.000 карасёў (500 кілаграмаў).

**Марат ГАРАВЫ.**

## Бяда ў вёсцы: вірусны гепатыт

*Ужо восьмы школьнік, што захварэў на вірусны гепатыт, выяўлены за месяц у Індурскай сярэдняй школе (Гродзенскі раён). Усе хворыя дзеці шпіталізаваны ў абласную інфекцыйную бальніцу. Іх лячэнне можа заняць месяц, а працэс рэабілітацыі расцягнецца на год.*

“Сітуацыя выглядае вельмі сур’ёзнай, мы канстатуем перадуспышкавы ўзровень захворвання. Калі колькасць хворых дасягне 10 чалавек, мы будзем вымушаны зачыніць школу”, — паведаміла БелаПАН выканаўца абавязкаў галоўнага дзяржаўнага ўрача Гродзенскага раёна Алена Цікота.

Усяго ў школе навучаецца 250 чалавек. Паводле слоў Алены Цікоты, прычынай захворвання сталі антысанітарныя ўмовы, у якіх пражывалі дзеці. Чацвёра з хворых жылі ў двухпавярховым шматкватэрным доме ў вёсцы Ясқевічы, дзе медыкі выявілі эпіцэнтр хваробы. Па выніках аналізаў зробленых медыкамі, захворванне перадавалася “выключна кантактна-бытавым шляхам”.

“Медыкі наведалі гэтую вёску, карціна жахлівая — бруд вакол дамоў, смецце. Але жыхары нават не адчынілі медыкам дзверы”, — адзначыла Алена Цікота.

**Іван ПАЎЛЁНАК.**

## Незабыўны вобраз

20 верасня споўніцца 100 гадоў ад дня нараджэння выдатнай беларускай паэткі Наталлі Арсенневай. З нагоды юбілею ГА “Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны” выпусціла кішэнны каляндарык (дызайн мастака Ігара Марачкіна) з выявай Наталлі Арсенневай і радком з яе верша “...была ты, ёсць і будзеш, Беларусь!” Выкарыстаны невядомы фотаздымак віленскага перыяду жыцця паэткі з фондаў Беларускага дзяржаўнага архіва літаратуры і мастацтва, які нідзе дагэтуль не друкаваўся.

Запытвайце каляндарык у сядзібе ТБМ, што на вуліцы Румянцава, 13 у Мінску.

**Ірына ЛЯКСЕЕВА.**

ВОЗВРАЩАЯСЬ К НАПЕЧАТАННОМУ

## Коттедж не приватизирован

“Читал ли Скакун Столыпина?” — под таким заголовком 15 мая в “Народной воле” была напечатана статья кандидата сельскохозяйственных наук Михаила Шломы. Для подтверждения своих мыслей автор привел такой факт: мол, работая руководителем экспериментальной базы “Тулово”, И.Л.Александрович построил за счет хозяйства коттедж, который, уходя из хозяйства, приватизировал. Все правильно, кроме одного — коттедж И.Л.Александрович, который теперь работает в областных структурах, не приватизировал, он попрежнему находится на балансе экспериментальной базы “Тулово”, что под Витебском.

